*І сэрцам палюбіў я гэты кут — цябе, мой старадаўні родны Слонім.*
*Алег Лойка*

# Слонімскі край



2017, № 2(12). Люты

## Такіх генералаў не ўшаноўваюць

У Слонімскім райвыканкаме нядаўна адбылося пасяджэнне прэзідыума Слонімскага раённага аб'яднання прафсаюзаў і раённага аб'яднання ветэранаў. Падчас абмеркавання планаў на 2017 год узнік шэраг прапаноў: з мэтай узмацнення грамадска-патрыятычнага выхавання зрабіць музей пад адкрытым небам — партызанскі лагер каля вёскі Заводны Лес, а таксама заняцца рэканструкцыяй хаты "легендарнага" генерала Мікалая Уласіка ў вёсцы Бабынічы. Так-так, таго самага генерала Уласіка, які больш за 20 гадоў ахоўваў дыктатара Іосіфа Сталіна. І не толькі ахоўваў, а прымаў удзел у рэпрэсіях савецкіх людзей (праўда, расстрэльных спісаў не падпісваў).



*Генерал Мікалай Уласік у сваім кабінеце. Фота канца 1930-х гадоў.*

Я шмат гадоў займаўся пошукам звестак пра жыццё і дзейнасць генерала са Слонімшчыны Мікалая Уласіка, перапісваўся з яго прыёмнай дачкой Надзеяй Мікалаеўнай (сваіх асабістых дзяцей Уласік не меў), якая жыве ў Маскве. Матэрыялаў сабралася на добрую кнігу.

*Працяг на ст. 2*

## Пра вуліцы Слоніма

24 студзеня 2017 года прайшло сумеснае пасяджэнне прэзідыума саветаў раённых аб'яднанняў прафсаюзаў і ветэранаў. У план працы на бягучы год уключылі і такі пункт: "распрацаваць шыльдачкі з гістарычнымі назвамі вуліц і размясціць іх у цэнтра горада побач з актуальным найменнем, зрабіць шыльдачкі для помнікаў архітэктуры з апісаннем".[1]

Безумоўна, ідэя добрая. Летась яе рэалізавалі ў гістарычным цэнтры Мінска, у Міры (Карэліцкі раён). Іншая справа, наколькі ў Слоніме на сённяшні дзень гатовы прафесійна выканаць такі праект. Без памылак і "белых плямаў".




*Фота: svaboda.org*

У 2011 годзе супрацоўніца "Газеты Слонімскай" Жанна Плешко накіравала ў раённы савет дэпутатаў прапанову наконт усталявання ў горадзе шыльдаў з гістарычнымі назвамі вуліц і прыклала да яго спіс.[2]

*Працяг на ст. 3*

# Такіх генералаў не ўшаноўваюць

*Працяг, пачатак на ст. 1.*

Але напісанне яе і выданне я адклаў. Родам са Слонімшчыны шмат іншых па-сапраўднаму заслужаных вайскоўцаў-генералаў і кіраўнікоў паўстанняў, якіх сапраўды трэба ўшаноўваць і якіх не варта ніколі забываць. Генерал Уласік з шэрагу такіх землякоў выпадае і ніколі ён з імі побач не стане! Ён быў побач са Сталіным і выконваў ролю "містэра ікс".

Мікалай Уласік нарадзіўся ў Бабынічах у 1896 годзе. Скончыў толькі 3 класы вясковай царкоўна-прыхадской школы. Ваяваў у Першую сусветную ў складзе рускай арміі, пасля падтрымаў бальшавікоў, з 1919 года служыў у савецкіх карных органах (ЧК, АГПУ, НКУС), хутка рабіў кар'еру. У асабістай ахове Сталіна быў з 1927 года. Не буду пералічваць усе яго пасады, іх было шмат і ўсе ўплывовыя. Напрыклад, у 1946 годзе ён стаў начальнікам Галоўнага



ўпраўлення аховы Міністэрства дзяржбяспекі СССР, меў званне генерал-лейтэнанта.

У 1952 годзе, яшчэ пры жыцці Сталіна, яго раптоўна панізілі і адправілі на пасаду намесніка начальніка выпраўленча-працоўнага лагера ў Свярдлоўскай вобласці Расіі, дзе знаходзіліся тысячы рэпрэсіраваных людзей. Па адной з версій, ад Уласіка вырашыў пазбавіцца Лаўрэнцій Берыя. У канцы 1952-га яго арыштавалі, доўга дапытвалі, шукалі кампрамат. Высветлілі нават, што ў 1945 годзе ён прывёз з Германіі на Слонімшчыну для сваёй сястры каня, дзве каровы і быка... За "злоўжыванне службовым становішчам" Уласік у 1955 г. атрымаў 10 гадоў высылкі, яго пазбавілі дзяржаўных узнагарод і генеральскага звання. Прысуд быў адменены толькі ў 2000 годзе, дачцы праз год вярнулі ўзнагароды бацькі, які памёр у Маскве ў 1967-м.

Дачка Сталіна Святлана Алілуева характарызавала Уласіка вельмі негатыўна. Пісала пра яго, як пра "малограмотного, глупого, грубого и чрезвычайно наглого сатрапа". Вось такога "легендарнага" генерала-земляка прапануюць ушанаваць на нашай Слонімшчыне.

***Сяргей Чыгрын***

*СТАРЫЯ ЗДЫМКІ*

# Жыровічы зімой



Гэты здымак быў зроблены найхутчэй у міжваенны час, у 1920-1930-я гады. Тады Слонімшчына, як і ўся Заходняя Беларусь, знаходзіліся пад польскай уладай. Пішучы пра той час, наш зямляк Барыс Данілюк (1923 — 2011) занатаваў у сваіх мемуарах: "Аселле вакол святога месца, дзе на лузе, на якім пасвілася, або "жыравала", жывёла... пастушкам дзівам з'явілася ікона Божае Маці, наш народ называў Жыравам". Ён быў перакананы, што менавіта гэта спрадвечная назва святыні.

Сёлета спаўняецца 365 гадоў з часу, калі кароль Рэчы Паспалітай і вялікі князь ВКЛ Ян Казімір надаў Жыровічам Магдэбурскае права, у мястэчка неўзабаве з'явіўся свой герб.

# Пра вуліцы Слоніма



***Фота Аляксандра Ярша***

*Працяг, пачатак на ст. 1.*

У ім падаецца толькі адна гістарычная назва Чырвонаармейскай вуліцы — Жыровіцкая. Але яна не самая старажытная, бо яшчэ раней была Скробаўская (Скробава), пазней — Маскоўская, 3 Мая. Падаецца толькі гістарычная назва Савецкай вуліцы — “Школьны двор”, але яе меў толькі невялікі ўчастак вуліцы. 200 гадоў таму гэта была вуліца “На жыдоўскі мост”, пазней — Мінская вуліца, пры польскіх уладах — часткова называлася Школьны Двор, часткова — Уланскай, часткова — Маршалка Юзафа Пілсудскага. Вуліца Васі Крайняга раней называлася не толькі Бернардзінскай і Банкавай, але яшчэ і Спаскай (часткова). І чаму вуліца Першамайская раней была толькі Гандлёвай (Рыначнай)? А як жа Парадная, Неўская, Міцкевіча, Сянкевіча? Вуліца Пушкіна была не толькі Панасоўкай (Апанасаўскай), але і Іерусалімскай, Раманаўскай, вуліцай князя Панятоўскага. Плошча Леніна ў Плешко толькі Гандлёвая. А як жа “Плошча перад дамініканскім касцёлам”, як яна называлася з канца XVII ст? А вось вуліца Някрасава Міхайлаўскім завулкам не была, так называлася пры польскай уладзе цяперашняя вуліца Кутузава (а побач была і Міхайлаўская вуліца).[3]

Як бачым, “спіс Плешко” недасканалы. Не хочацца, каб такія ж недапрацаваныя шыльдачкі з’явіліся ў цэнтры Слоніма.[4] Спадзяемся, што будзе праведзена сур’ёзная даследчая праца ў архівах. Інакш проста немагчыма аднавіць усе гістарычныя назвы вуліц з датамі, калі яны пачалі выкарыстоўвацца. Загадак хапае. Напрыклад, у XVI-XVII стагоддзях у цэнтры Слоніма каля рынку была Вялікая вуліца.[5] Як яна называецца цяпер, невядома.

***Сяргей Ёрш***




***У 2016 годзе ў цэнтры Мінска з’явіліся шыльды з гістарычнымі назвамі вуліц.***

[1] Юшкевич Е. История — большая ценность // Слонімскі веснік, 2017, 26 студзеня; http://www.slonves.by/2017/01/istoriya-bolshaya-cennost/

[2] Плешко Ж. Як вярнуць вуліцам Слоніма іх гістарычныя назвы // Газета Слонімская, 2011, № 49, 30 лістапада.

[3] Гэта можна пабачыць на плане Слоніма 1934 г.; Таксама гл. нядаўнюю публікацыю: Прокофьев И. “Доля ты!.. Долюшка женская!..”. Несколько штрихов к портрету Н. Л. Кожевниковой с улицы Некрасова // Слонімскі веснік, 2016, № 145, 10 снежня.

[4]Яшчэ адзін прыклад недастатковых ведаў пра ранейшыя назвы слонімскіх вуліц. Вясной 2015-га старэйшы навуковы супрацоўнік Слонімскага раённага краязнаўчага музея імя Я. Стаброўскага Ірына Шпыркова заявіла наступнае: “Работнікі музея ведаюць, дзе знаходзіўся палац Агінскіх — на старажытным Слонімскім замчышчы. Там вуліца калісьці, пры паляках, называлася Замкавай. Але цяпер яна называецца Опернай”. Гл.: Плахетко Т. Слонимчанка: “Стыдно, что мы не знаем и не ценим историю Слонима” // Газета Слонімская, 2015, № 15, 8 красавіка. С. 8. Пры гэтым добра вядома, што вуліца Оперная была якраз пры польскай уладзе, а Замкавай называлася цяперашняя Камсамольская вуліца.

[5] Бабкова В. ...І цуды, і страхі. Эсэ па гісторыі штодзённасці Вялікага Княства Літоўскага XVI-XVII стагоддзяў. — Мінск, 2010. С. 146.

ПОШУКІ І ЗНАХОДКІ

# Адшуканы лексічны слоўнік Малой Кракоткі

Наш зямляк, беларускі літаратуразнавец, фальклярыст, бібліёграф, перакладчык, кандыдат філалагічных навук Янка Саламевіч (1938 — 2012) мне неаднойчы распавядаў аб тым, што ён усё жыццё запісваў словы жыхароў сваёй роднай вёскі Малая Кракотка. Саламевіч марыў некалі выдаць яе лексічны слоўнік.

І вось нядаўна пісьменнік Міхась Скобла прывёз і падараваў мне рукапіс гэтага слоўніка! Праўда, не ўвесь, а толькі яго частку (на літары А-Д). Адшукаў ён яго ў прыватным архіве пісьменніка Уладзіміра Содаля (1937 —2015). Содаль і Саламевіч шчыра сябравалі, яны разам даследавалі наш родны край, потым рыхтавалі і вялі на Беларускім тэлебачанні папулярную перадачу “Роднае слова”.

Янка Саламевіч вельмі любіў свае Кракоткі: і Малую, і Вялікую. Пра гэтыя вёскі і сваіх землякоў ён мог распавядаць бясконца розныя вясёлыя гісторыі і небыліцы. Пры жыцці мне пашанцавала з ім зрабіць вялікую гутарку, якую я апублікаваў у сваёй кнізе “Слонім і ваколіца” (Мінск, 2012). Было гэта ў 2010 годзе. Тады мне мой дарагі зямляк казаў, што “калі пабываеш дома, пабываеш там, дзе жыў у маленстве, як палякі кажуць, сельскім, анёльскім, хопіш таго паветра, якім дыхаў некалі, адчуваеш тую біялагічную аўру, якая дабратворна ўплывае на цябе дасюль, душа растае, дух мацуецца роднымі сокамі, усё ў табе ажывае, нават родная гаворка, хоць хлопцы кажуць: “Ты гаворыш па-беларуску, а мы па-нашаму, па-кракоцкі”.



*Янка Саламевіч*

Спадзяюся, што з цягам часу адшукаецца ўся лексічная праца вёскі Малая Кракотка, якую занатоўваў і збіраў Янка Саламевіч. А чытачам нашага выдання прапаную асобныя словы лексікі жыхароў Малой Кракоткі. Скажу яшчэ, што лексіка — гэта сукупнасць усіх слоў пэўнай мовы, яе слоўнікавы склад. Лексіка Малой Кракоткі нечым падобная на лексіку многіх іншых вёсак Слонімшчыны. І той, хто нарадзіўся ці вырас у вёсцы, адразу ўспомніць, што такія словы некалі казалі іх бацькі і дзяды.

***Сяргей Чыгрын***



***Уборка льну ў вёсках Малая і Вялікая Кракотка, 1954 год.***

# З лексікі Малой Кракоткі

АБАБЭНЧЫЦЬ. Раздуць (пра жывёлу). Нажэрлася канюшыны, то і абабэнчыло.

АБАЛДУЙ. Асталоп. Ён гэдыкі абалдуй, што да яго ні даходзіць.

АБАМБЕРЫЦЬ. Абстрыгчы. Давай яго абамбер пад Катоўскага.

АБЗОЙ. Неабрэзанае рабро дошкі. Тоўсты абзой астаўсё.

АБІРАЛАЎКА. Вельмі высокая цана. Гэто ні цана, а вірутна абіралаўка.

АБЛАЧОК. Воблачка. Як завыў ваўчок, вышаў аблачок.

АБЛЯМОЎКА. Апуха. Некалі кажухі шылі з аблямоўкаю.

АБМЫЛАК. Памылка (пры тканні). У кроснах абмылак зрабіла.

АБНОЖКА. Пылок з кветак, які збірае пчала і нясе на лапках у вулей. Абножку пчолы носяць на соты.

АБРУЧЫК. Прылада для вышывання. Купіла абручык — цяпер буду вышываць.

АБРЫСКЛОЁ. Малако, якое пачало кіснуць. Гэто абрысклоё, прынясі салодкага, забялі.

АБУХ. Някемлівы, дурны. Абух ты, нічого ні панімаеш.

АБШЧАЖЫЦІЁ. Інтэрнат. Ён вучыцца ў Мінску, жыве ў абшчажыціі.

АБ'ЯДЗЕНЁ. Вельмі смачнае. Свежанькія памідоры, паляндвічка, кумпяк — аб'ядзенё, нясі, баба, бутылку!

АГУЗАК. Ніжняя частка дрэва. Агузак натто цяжкі, давай яго папілуем першаго.

АДВАРУШКІ. Бульба, звараная з лупінамі. Пастаў адварушак, паядуць, дзе дзенуцца. Некалі адварушак з тоўчаным льняным семям наямосё і лепшага ні пытаям.

АДДУХА. Перапынак, адпачынак. Давай крыху сапнем. Дай аддухі хоць трохо. Ні магу боляй!

АДЗІЯЛО. Коўдра. Адзіяло палажы ў шкаф.

АДЗЯВАНЁ. Адзяванне. Што гэта за адзяванё, варушыся!

АДКУЗОЎВАЦЦА. Адпірацца, адмаўляцца. Яшчэ і адкузоўваяцца, смаркач.

АДСКОЧЫЦЬ. Хутка вырасці. Маладая трава ўжэ адскочыла.

АДТАРАБАНІЦЬ. Аднесці, адвезці, завалачы што-небудзь цяжкое. Адтарабаніла катла суседу.

АДХЛЯПЕСЦІЦЬ. Адчыніць, парасчыняць. Нашто акно адхляпесцілі?!

АЖНІ. Ажно. Назбірала грыбоў ажні два кошыкі.

АКЛАДЗІНА. Дошка ў возе для вывазу гною. Палажы на воз акладзіну, каб гной ні выпадаў.

АКОРВАЦЬ. Здымаць кару. Вазьмі скоблу і акары гэтыя жэрдачкі, няхай падсыхаюць. Толькі пачаў акорваць ён тую дзеравяніну, як усю музыку перабіў гэты дурны бык.

АЛІВА. Аліфа. Прынясе алівы, памажам сячкарню, будзя лягчэй круціць.

АМБА. Канец, смерць. Думаў, што мне ўжэ амба будзя, анно абышлосё.

АНЦІХРЫСТ. Нягоднік, кепскі чалавек. Гэто ні чалавек, а нейкі анціхрыст.

АПІНІЯ. Рэпутацыя. Ён добру апінію мае.

АПРАНАХА. Верхняя вопратка. Надзень гэту апранаху, цяплей будзя.

АСМАЛАК. Абгарэлы кавалак чаго-небудзь. Усё згарэло, анны асмалкі асталіся.

АСОВІК. Бабка. Мы на гэтыя грыбэ кажам падбярозавікі, а мама асовікі.

АСЭСАР. Чалавек, які любіць камандаваць. Тожа мне асэсар, зрабі сам.

АХЛАБУШЫЦЬ. Хутка і многа выпіць. Паўзбанка кіслага малака ахлабушыў.

АШМОНАЦЬ. Знайсці, адшукаць. Дзе ты іх столько ашмонаў?

АШЧЫНА. Вашчына. Наш бацько казаў ні вашчына да ашчына.

АШЫПУЛІЦЬ. Знайсці. Як ён ашыпуліў гэтыя боты?

БАБЗДЫР. Мужчына, які часта знаходзіцца ў жаночай кампаніі. Бабздыром называюць мужыка, які ўсё трэцца між бабаў.

БАБКАЦЬ. Клікаць бабу. Чаго ты бабкаяш, сціхні!

БАБЫ-ГОРШКІ. Узяць малога на плечы. Садзіся мне на бабы-горшкі да пойдзем.

БАЛАВЕНЬ. Пястун. Ён у мяне велькі балавень.

БАНДУРА. Вялікая рэч. Не трэба мне гэта бандура, усё заваліць.

БАРДЖЭЙ (прыслоўе). Хутчэй. Барджэй бяжы сюды.

БАРАНАК. Абаранак. Накупляла баранкаў у Ражаной.

БАТ. Пуга. Дай яму бата.

БАЦЬВІНЁ. Страва з лісця і сцёблаў буракоў. Забялі бацьвінё смятанаю.

БЕЛЬМА. Вочы. Чаго ты свае бельма вылупіў?

БІМБАР. Самагонка. Пазыч паўлітра бімбару.

БІРУЛЬКА. Прадаўгаваты драўляны гузік. Пры немцах гузікаў ні было дзе браць, то рабілі з дубцоў, нават з веніка, бірулькі.

БІЦУК. Бадыліна расліны. Анны біцукі асталіся.

БЛЁНДАЦЦА. Блытацца. Чаго ты блёндаецся пад нагамі?

БЛІНЦЭ. Блінцы. Маці пячэ блінцэ з картопяль.

БОЎТ. Дурны, някемлівы. Гэто нейкі боўт, нічого ні панімая.

З АРХІВАЎ

# Разведачныя раскопкі касцёла канонікаў латэранскіх у Слоніме ў 1985 годзе

“СК” працягвае змяшчаць матэрыялы з архіву слонімскага краязнаўца Васіля Супруна (1926 — 2007). У гэтым нумары друкуем тэкст пра раскопкі, якія былі праведзены ў 1985-м на месцы знішчанага савецкімі ўладамі Свята-Прэабражэнскага сабора (колішняга касцёла канонікаў латэранскіх). У той час пляцоўка пуставала, але на ёй улады планавалі будаўнічыя працы, з-за чаго і запрасілі археолагаў. На шчасце, нічога там не было пабудавана, а ў 2000-я гады сабор быў адноўлены.

Матэрыял Супруна дапаўняе газетная зацемка, якую таксама публікуем. Рэдакцыя ўдзячна нашаму чытачу Васілю Рубцу за прадастаўлены матэрыял.

***Сяргей Ёрш***




***План раскопак, малюнак Васіля Супруна.***

У сувязі са знішчэннем кладкі руін касцёла і будаўніцтвам на гэтым месцы гарадскіх фантанаў, з 5 па 20 чэрвеня 1985 г. тут былі праведзены археалагічныя работы. Кіраваў імі археолаг, супрацоўнік беларускіх рэстаўрацыйных майстэрняў Ігар Чарняўскі. Сродкі выдзеліў гарвыканкам.

Пошукавыя і абмерныя работы праводзіліся ў выглядзе шурфаў, канаў і праколаў. З боку вуліцы Пушкіна культурныя напластаванні адсутнічалі. З процілеглага боку (ад Студэнцкай вуліцы) магутнасць культурных напластаванняў у адным з шурфоў дасягала больш за 1,5 метра ад сучаснай дняўной паверхні. Акрамя рэдкіх чарапкоў глінянага посуду ў напластаваннях выявіць нічога не ўдалося. [Знайшлі] посуд XVII і нават XIV-XV ст. Тут жа мелася пахаванне, у якім знойдзена манета 1511 года. Пры пахаванні відаць было пашкоджана больш ранняе пахаванне, прыкметны хаатычна раскіданыя косці другога чалавека. У адным з шурфаў у пачатку апсіды з боку вуліцы Пушкіна таксама выяўлена пахаванне (магчыма, жаночае), якое знаходзілася ўнутры касцёла, на мяжы апсіды і інтэр’ера. Пахаванне моцна пашкоджанае (ахвяра будаўніцтва), бо нават пад труной меўся будаўнічы друз.

Можна меркаваць, што да будаўніцтва касцёла ў 1650 г. тут быў невялікі могільнік, месца — не жылое.*

Пры будаўніцтве падмурка (цаглянага) выкарыстоўвалася цэгла чырвоная памераў 26-28,5х13,5-15х5-6,5см. Скляпенні падвалаў зроблены з малой цэглы, тонкай 21,5-22х12-13х4 см, а столевыя скляпенні — з цэглы 27х14,5х6,5 см. Сцены — 26,5-27х14-15х5-6,5 см. Адна цагліна знойдзена (часткова адбітая) 37(+адбітая) х15,5х9 см. Такая ж знойдзена каля складоў [нечытэльна] у тратуары, памер 32х16х9 см.

***Васіль Супрун***

**Раней там існавала старажытная Апанасаўская праваслаўная царква, а каля яе і маглі быць могілкі. Гл.: Гродненский православно-церковный календарь или Православие в Брестско-гродненской земле в конце XIX века. Издание 2-е. Том I. — Воронеж, 1899. С. 146; Чантурыя Ю. Слонім // Страчаная спадчына. — Мінск: Беларусь, 2003. С. 328. — СЁ*




# Побач са старым касцёлам...

У Слоніме закончыла працу экспедыцыя аддзела археалагічных даследаванняў спецыяльных навукова-рэстаўрацыйных вытворчых майстэрняў Міністэрства культуры БССР.

Кіраўнік раскопак начальнік аддзела археалагічных даследаванняў Ігар Чарняўскі распавёў:

— Мы даследавалі тую частку ў цэнтры Слоніма, дзе ў сярэдзіне XVII стагоддзя знаходзіўся касцёл ордэна канонікаў латэранскіх.* Удалося ўстанавіць яго дакладны план, даследаваць будаўнічыя матэрыялы, культурныя пласты. Вызначана, што побач з касцёлам знаходзяцца пахаванні пачатку XIV стагоддзя. У адной з магілаў знайшлі манету — срэбраны паўгрош Рэчы Паспалітай 1511 года. Знойдзены медны нацельны медальён. Шкада, што пахаванне пачатку XVI стагоддзя пашкодзіла больш ранняе. У другой палове XIX стагоддзя стары касцёл быў пераўтвораны ў праваслаўны сабор і змяніў сваё аблічча: барока змяніў псеўдарускі стыль. Сабор згарэў падчас вайны.

***Д. Зінгер***

*Советская Белоруссия, 1985, 30 чэрвеня. Пераклад з рускай мовы.*

**У публікацыі памылкова было напісана “лютэранскіх”. — СЁ*

# Як у Слоніме ў 1928 годзе знайшлі падземны ход




Вясной 1997 года я запісваў успаміны краязнаўца і археолага Васіля Супруна пра слонімскія падзямеллі. Ён распавёў пра здарэнне, якое адбылося ў Слоніме ў 1920-х гадах. Толькі не змог дакладна прыгадаць, хто яму расказаў пра яго: сам Язэп Стаброўскі, заснавальнік краязнаўчага музея, археолаг, ці нехта іншы. Дык вось аднойчы здарыўся на тэрыторыі вуліцы Касцюшкі (цяпер — Маякоўскага) правал. Як спецыяліста ў падобных пытаннях, запрасілі Стаброўскага.

“Ён абследаваў гэтае месца і прыйшоў да такога заключэння, што магчыма гэта правал тунэля. Але куды і адкуль ён ішоў, Стаброўскі не мог нічога засведчыць, бо было небяспечна пранікаць у гэтае падзямелле”, — успамінаў Васіль Супрун.[1]


**Wykrycie lochów w Słonimie i cmentarza pod miastem**

W dniu 21 b. m. w dziedzińcu, należącym do p. Millera, zam. w Słonimie przy ulicy Kościuszki pod Nr. 9 przy kopaniu dołu kloacznego po wykopaniu dwumetrowej jamy (od poziomu podwórza) robotnicy natknęli się na sklepienie lochu podziemnego, który według krążących pogłosek łączył b. pałac Ogińskiego

Я палічыў, што правал адбыўся на самой вуліцы. Яна, дарэчы, у той час не заканчвалася тупіком каля пошты, як цяпер. На плане 1934 года відаць, што вуліца Касцюшкі ішла ад плошчы Свабоды і вуліцы Міцкевіча праз Оперную вуліцу аж да Бульвараў князя Агінскага. Нядаўна праглядаючы матэрыялы з архіву В. Супруна, знайшоў згадкі пра тое здарэнне і год, калі яно адбылося — 1928-ы.

Маючы гэтую “падказку” Васіля Рыгоравіча, распачаў пошукі публікацый на гэтую тэму ў мясцовай польскай прэсе за 1928 год. Патрэбная зацемка знайшлася ў адным з вераснёўскіх нумароў “Навагрудскага кур’ера”. З яе вынікала, што правал адбыўся не на праезнай частцы вуліцы. 21 верасня на прысядзібным участку пана Мілера, які жыў па вуліцы Касцюшкі, 9, рабочыя капалі яму. На глыбіні 2 метраў яны натрапілі на невядомае збудаванне з цэглы. У згаданай зацемцы выказваецца

# Як у Слоніме ў 1928 годзе знайшлі падземны ход



*Працяг, пачатак на ст. 7.*

версія, што гэты тунэль мог злучаць "б[ылы] палац Агінскага… з адным з былых кляштароў (цяперашні гарадскі парк)".[2] Пад апошнім найхутчэй маецца на ўвазе кляштар пры касцёле канонікаў латэранскіх, кляштар езуітаў быў далей.

Рабочым загадалі прабіць скляпенне, зрабілі дзірку, каб яго можна было абследаваць. Здарэннем зацікавіліся мясцовыя ўлады, як мы ўжо ведаем, для абследавання тунэля быў запрошаны Стаброўскі. У прэсе не паведамлялася пра яго вынікі. Магчыма, з-за таго, што не было пра што пісаць — ніхто не рызыкнуў спусціцца ў дзірку. Тунэль засыпалі.

У запісах Супруна ёсць згадка, што правал 1928-га года адбыўся прыблізна ў 20 метрах на ўсход ад тунэля, які быў выяўлены ў 1970-м у раёне вуліцы Маякоўскага. Ён лічыў, што гэта адзін і той жа падземны ход.

***Сяргей Ёрш***

*[1] Успаміны Васіля Супруна. Запіс зроблены С. Яршом 2 сакавіка 1997 г.*

*[2] Wykrycie lochów w Słonimie i cmentarza pod miastem // Zycie Nowogródzkie (Навагрудскае жыццё), 1928, № 229, 24 верасня.*

# Слонім у 1819 годзе



Летам 1819-га наш горад наведаў польскі пісьменнік і гісторык Юльян Урсын Нямцэвіч (1757 — 1841). Ён ехаў з Вільні праз Ліду і Навагрудак у Ружаны. У сваёй кнізе "Гістарычныя падарожжы па польскіх землях, што адбыліся ў 1811-1828 гадах"* Нямцэвіч пакінуў цікавае апісанне Слоніма. Ён мог параўнаць тое, якім быў горад у 1778-м і якім стаў праз чатыры дзесяцігоддзя. Найбольш яго засмуціў жахлівы стан, у якім апынулася пад рускай уладай былая славутая рэзідэнцыя Міхала Казіміра Агінскага з оперным тэатрам. У той жа час падарожнік адзначыў развіццё у Слоніме гандлю і прамысловасці.

***Генадзь Гурскі***



JULIANA URSYNA NIEMCEWICZA

PODRÓŻE HISTORYCZNE

PO

ZIEMIACH POLSKICH

MIĘDZY ROKIEM 1811 A 1828 ODBYTE.

PARYŻ

W KSIĘGARNI A. FRANCKA.

1858.

Спыніўся пераначаваць у Слоніме. Яго выгляд крыху больш заможны. Навокал зямля буйная, шчодра пакрытая жнівом. Рака Шчара суднаходная і злучаная з іншымі суднаходнымі [рэкамі], цячэ праз горад. Вуліцы шырокія, досыць упарадкаваныя і чыстыя. Насельніцтва (кожны разумее, што размова ідзе пра яўрэйскае) даволі шматлікае; [ёсць] прыкметы нават нейкай прамысловасці. Шум некалькіх млыноў і тартакоў дае нейкі выгляд жыццядзейнасці і руху. Прыйшла нават адна вялізная брыка* з варшаўскага кірмашу, нагружаная сухімі таварамі. У іншых краях такая заўвага была б смешнай, тут яна важная. Сярод прыціснутых, спячых у гэтым краі прамысловасці і гандлю, найменшае прамысловае зрушэнне з'яўляецца важным. У якім стане бачыў Слонім у 1778 г., а ў якім знайшоў яго сёння! Сорак гадоў таму ён быў месцам жыхарства заможнага багацтвам і магутнасцю гетмана Агінскага. Шматлікі і выдатны двор, натоўп гасцей з усёй Літвы, тэатр польскі і італьянскі, спевакі, музыкі, вялізныя сталы, залатое і сярэбранае начынне. Сёння ўсё ў развалінах. Палац ператвораны ў шпіталь, рамантуюцца і толькі стаяць муры, дзе спявалі італьянскія музыкі; зарослы пустазеллем сад, зарослыя сітнікам каналы; усюды самотна стаяць калоны, а таксама напалову разбураныя муры.

**Юльян Урсын Нямцэвіч**

**Niemcewicz, Julian U. Podróże historyczne po ziemiach polskich między rokiem 1811 a 1828 odbyte. — Paryż, 1858. С. 392-393.*

***Вялікая закрытая фурманка, у якую былі запрэжаныя коні.*

# У XVII стагоддзі сланімчанку абвінавацілі ў чарадзействе і спалілі

Гэтую справу ў 1630-1631 гадах разглядаў суд у Навагрудку. Туды прывезлі жыхарку Слоніма Ганну Паўлюкову па мянушцы “Кароткая”. У нашым горадзе яна жыла з 8 гадоў, а раней — на Віленшчыне. У суд на яе паскардзіўся слонімскі мешчанін Тамаш Кругельскі. Паводле яго слоў, сваім вядзьмарствам Ганна Паўлюкова хацела прынесці пакуты жонцы Кругельскага. Ганна, каб адвесці ад сябе падазрэнні, распавяла пра спробу чарадзейства ў адносінах маршалка вялікага літоўскага, слонімскага старосты Яна Станіслава Сапегі (1589 — 1635), старэйшага сына вялікага канцлера ВКЛ Льва Сапегі. Мэтай было не дапусціць яго жаніцьбы. Па словах Ганны, чарадзействам займаліся некалькі жанчын, сярод іх яна назвала самай небяспечнай жонку святара Марціна Грамыкі з Высацкай парафіі. Жанчына казала, што маршалак пакутаваў, не мог спаць па начах. У яго замку ў Слоніме адбываліся таямнічыя здарэнні, пра якія гаварылі людзі. Вартаўнікі бачылі, як з коміна выляталі дзіўныя гарачыя вугалі...


Гравюра XVII ст.

Ганна Паўлюкова заявіла, што калі яе спаляць, гэта ніяк не дапаможа таму ж маршалку. А вось калі ёй дазволяць заняцца справай, дык яна і здароўе князю Сапегу паправіць, і паспрыяе яго ўдалай жаніцьбе. “Тая пападзя палову сьвету трасе, а я за чужыя ўчынкі ў вашы рукі патрапіла”, — зафіксаваў яе словы судовы пісар.

Па паказаннях сланімчанкі, Раіну Грамыка (Манькоўскую) схапілі, трымалі ў маёнтках Сапегі (кароткі час была яна і ў Слоніме), судзілі ў Навагрудку і ў канцы 1631-га спалілі на вогнішчы. Вельмі ж баяўся маршалак варажбітак, паўсюль бачыў чараўніцтвы. Справа Грамыкі вядомая, у 1991-м па яе матывах быў зняты мастацкі фільм. А што ж Ганна Паўлюкова, якая загубіла жонку святара? Вызваляць яе ніхто не збіраўся. Супраць яе сведчыў не толькі мешчанін Кругельскі, але і слонімец Лейба Меёравіч, які сцвярджаў, што яго дом яна заваражыла. І тут Ганна прызналася, што сапраўды зачаравала Кругельскую, бо нейкая іншая жанчына яе падгаварыла на злачынства. Але не варажыла на смерць, таму будзе жонка мешчаніна здаровая, нічога ёй не пагражае. Што да справы Меёравіча, то яе падгаварыла шынкарка Інікеева. Апошняя раней скардзілася, што да Лейбы ў шынок людзі ідуць піць, а да яе — не.

Паказанні сланімчанкі праверылі пад катаваннямі. Яна з усіх сілаў чаплялася за жыццё, спрабавала давесці, што можа быць карысная маршалку. “Калі мяне адпусціце, зраблю так, што яго міласць маршалак будзе здаровы, шчаслівы і неўзабаве ажэніцца”, — сказала жанчына сваім катам. Яна нават назвала рэцэпт, як князь Сапега можа зняць з сябе чараўніцтва. Яго дакладна запісалі, але ці скарыстаўся ім магнат, невядома. А Ганну Паўлюкову спалілі на вогнішчы...


Ян Станіслаў Сапега

Пра іншыя выпадкі змагання з чараўніцтвам на Слонімшчыне пісала даследчыца Вольга Бабкова. Яна, між іншым, згадвае выпадак, калі ўладальнік маёнтку Ісаевічы Мікалай Шостак 13 чэрвеня 1576 года загадаў спаліць маладую жанчыну Ягнешку, жонку Багдана Дойлідавіча. На загад Шостака, яе абвінавацілі ў чарадзействе, катавалі, а пасля адправілі на вогнішча.*

***Аляксей Крук***

**Больш падрабязна гл. тут: Бабкова В. ...І цуды і страхі. Эсэ па гісторыі штодзённасці Вялікага Княства Літоўскага XVI-XVII стагоддзяў. — Мінск, 2010. С. 80-81.*

# Слонімскі чыгуначны вакзал



Як пісаў “СК”, у мінулым годзе адзначаліся 130-я ўгодкі з часу ўводу ў эксплуатацыю чыгуначнай станцыі “Слонім”. [1] Аднак існуе версія, што яна пачала дзейнічаць не ў 1886-м, а ў 1890-м. Пра гэта, магчыма, памылкова сведчыць слонімскі настаўнік і краязнаўца Мечыслаў Гальскі. [2] Варта пашукаць іншыя дадзеныя, каб зняць усе пытанні.

“Слонімскі веснік” паведамляе, што пасажырскі чыгуначны вакзал на станцыі быў пабудаваны ў 1906 годзе і летась яму было 110 гадоў (яго можна пабачыць на паштоўцы). А вось на 2017-ы прыпадаюць 95-я ўгодкі з дня яго рэканструкцыі ўжо пры польскай уладзе.[3] Заўвага важная, паколькі ў той жа кнізе “Помнікі Слоніма” сцвярджаецца, што слонімскі вакзал быў пабудаваны ў 1922 годзе. [4] Аднак насамрэч быў рэканструяваны стары будынак.




***Паштоўка часоў Першай сусветнай вайны.***

У снежні 1926 года польскі часопіс “Інжынер-чыгуначнік” змясціў здымак вакзала ў Слоніме.[5] Магчыма, гэта адно з першых яго фота ў новым абліччы.

***СЁ***

*[1] 130 гадоў слонімскай чыгуначнай станцыі // Слонімскі край, 2016, № 1(11). С. 9.*

*[2] Halski M. Słonimszczyzna (Monograficzny szkic Słonimszczyzny) // Nasz lot: jednodniówka z okazji 10-cioletniego jubileuszu istnienia Oddziału Powiatowego Związku Nauczycielstwa Polskiego w Słonimie 1922-1932. — Słonim, 1933, 4 лютага. С. 15.*

*[3] Прокофьев И. Слонимский вокзал: польский или царский? // Слонімскі веснік, 2016, № 154, 31 снежня. С. 8.*

*[4] Караткевіч В., Кулагін А. Помнікі Слоніма. — Мінск: Навука і тэхніка, 1983. С. 35.*

*[5] Inżynier Kolejowy (Варшава), 1926, № 12, 1 снежня. С. 352.*



# Больш за 20 тысяч турыстаў у Сынковічах

За 2016 год, па самых сціплых і прыблізных падліках, Сынковіцкі храм (царкву святога арханёла Міхаіла) наведалі больш за 20 тысяч турыстаў. У верасні сёлета будзе адзначацца яго 610-годдзе, адбудзецца ўрачыстасць, выйдзе чарговая гістарычная кніга, інфармуе racyja.com.

# Знойдзена невядомая карэспандэнцыя Гальяша Леўчыка?

Слонімскі паэт і краязнаўца Гальяш Леўчык (Ляўковіч, 1880 — 1944) супрацоўнічаў з віленскай беларускай газетай "Наша ніва" з 1907 года.[1] У лютым 1908-га надрукаваў у ёй свой першы верш. За некалькі тыдняў да гэтага рэдакцыя яму пісала: "Варшава Г. Леўчыку: вершы можаце пісаць, але рытму няма; рыфма добрая. Пішыце ня толькі вершы, а і прозу".[2] На той час слонімец ужо некалькі гадоў працаваў у Варшаве, але ў родны горад, дзе жыла сястра, прыязджаў рэгулярна.



Cena asobnaho numeru 5 kap.

Hod IV. Wilnia, 12 (25) najabra 1909 h. № 46.

**Nasza Niwa**

Pierszaja Biełaruskaja Hazeta z rysunkami.

Wychodzić szto tydzień ruskimi i polskimi literami.

Adres redakcii i administracii: Wilnia, Wilenskaja wulica № 20.

У 46-м нумары "НН" ад 12(25) лістапада 1909 года з'явілася наступная карэспандэнцыя:

Г[орад] Слонім. Гродз[енская] губ[ерня]. Прыстаў неяк зламаў абцасам аднаму мужыку — Раўтавцу Скабу. Мужык памёр. Яго бяз гуку пахавалі. Потым на жалобу* жонкі выкапалі і знайшлі, што рэбро зломлена. Спраўніка, прыстава і доктара, што пакрылі крымінал, не зрабіўшы аб гэтым пратакола, будуць судзіць. Справа ўжо заведзена.

Недаўна судзілі аднаго земскаго, што ён узяў гасьцінца.** Судзебная палата яго выключыла са службы.

***Слонімскі*****

**На скаргу. — Гэтая і наступныя заўвагі — "СК"*

***Хабар.*

****Падаем гэты тэкст паводле варыянту нумару "НН" на беларускай лацінцы. У варыянце на кірыліцы ёсць адрозненні. Там няма згадкі пра абцас, замест "мужыку — Равтавцу" чытаем: "мужыку — Рабтоўцу". Ёсць і іншыя адрозненні ў напісанні некаторых слоў.*



№ 46 NASZA NIWA. 679

**Hrodno.** Sudziebnaja Pałata rażbirała sprawu ab razboi u hienieralšy Russaŭ. Finkiela apraŭdała, Dzielenkoŭskaho i Šperlina zasudziła ŭ katarhu na 6 hod.

H. **Słonim.** Hrodz. hub. Prystaŭ niejak złamaŭ abcasam adnamu mužyku — Rawtawcu Skabu. Mužyk pamior. Jaho biaz huku pachawali. Potym na żałobu żonki wykapali i znajšli, što rebro złomlena. Spraŭnika, prystawa i doktara, što pakryli kryminał, nie zrabiŭšy ab hetym pratakoła, buduć sudzić. Sprawa ŭžo zawiedziena.

= Niedaŭna sudzili adnaho ziemskaho, što jon uziaŭ haścinca. Sudziebnaja pałata jaho wyklučyła sa służby. *Słonimski.*

man za niejkuju prawinnaść abłaaŭ swajho lokaja. Lokaj pa złości, padpilnawaŭšy ŭ nočy waročajučahosia inżyniera, kinuŭsia na jaho i zadušyŭ; trup zanios u kanawu. Na zaŭtraje niaboščyka znajšli, i kali stali dapytywać lokaja, toj żbiŭsia s tołku i ŭ rešcie pryznaŭsia. Jaho aryštawali.

**Šawli.** Budujuć nowuju turmu; budzie jana kaštawać 210 tys. r.

**Z usich staron.**

—o—

**Piecierburh.** Za akciabr miesiac *pryhawaryli na śmierć:* u Jekacierynosłaŭli—15 čeławiek; Siewastopali – 10; Mikałajewi—9; Ba-

Хто можа быць аўтарам гэтага допісу? Да таго часу ў газеце друкаваліся карэспандэнцыі са Слонімшчыны, але іх аўтары не жылі ў самім горадзе ды пісалі пераважна пра падзеі ў вёсках і мястэчках. Пра падзеі ў самім Слоніме "Наша ніва" зрэдку змяшчала перадрукі з іншых выданняў. У дадзеным выпадку выкарыстаны псеўданім, які не з'яўляўся ні дагэтуль, ні пасля. Да таго ж тэма карэспандэнцыі спецыфічная. Няўжо Гальяш Леўчык? Раней ён працаваў у Слоніме ў канцылярыях з'ездаў міравых суддзяў, судовага следчага. Тэма для яго была знаёмая. Магчыма, ад нейкага былога калегі даведаўся гэтыя навіны ды вырашыў даслаць у любімую газету.

На карысць гэтай нашай версіі сведчыць той факт, што ўжо ў № 48 ад 26 лістапада (9 снежня) быў змешчаны верш Леўчыка "Нашай ніве" ў трэцюю гадаўшчыну". Слонімец мог дасласць і допіс, і верш адным лістом.

Такім чынам, з вялікай доляй верагоднасці можам сцвярджаць, што мы маем раней невядомы псеўданім Гальяша Леўчыка — "Слонімскі". У спісе псеўданімаў паэта, які склаў Янка Саламевіч[3], яго няма.

***Сяргей Ёрш***

*[1] Калеснік У. Даніна сэрца // Гальяш Леўчык. Доля і хлеб: Выбраныя творы. — Мінск: Мастацкая літаратура, 1980, С. 5.*

*[2] Наша ніва, 1908, № 2, 18(31) студзеня.*

*[3] Саламевіч Я. Слоўнік беларускіх псеўданімаў і крыптанімаў (XVI — XX стст.). — Мінск: Мастацкая літаратура, 1983, С. 186.*

# Пра будынак на слонімскім “Замчышчы”




На сайце audiovis.nac.gov.pl (Narodowe archiwum cyfrowe) у падборцы даваенных слонімскіх здымкаў можна пабачыць фота двухпавярховага будынка, якое падпісана так: “Дом, пабудаваны князем Міхалам Казімірам Агінскім”.[1] Адзначаецца, што здымак зроблены ў Слоніме ў сакавіку 1931 года Вітальдам Пікелем. Летам мінулага года яго перадрукоўвала “ГС” у рубрыцы “Рэтрафота”.[2] Аднак Жанна Іванова напісала толькі, што гэта “камяніца Агінскага”, не спрабавала разгадаць, што ж гэта за будынак і дзе ён знаходзіўся.

Раней даводзілася паказваць гэтае фота некалькім краязнаўцам, але ніхто не змог сказаць, што ж гэта за дом. На наш погляд, гэты будынак знаходзіўся на “Замчышчы” каля Опернай вуліцы. Але ці быў ён пабудаваны пры Агінскім? Не. Справа ў тым, што палац Міхала Казіміра Агінскага быў аднапавярховым, на плане нагадвае падкову. Як піша ў сваёй манаграфіі даследчык Анджэй Цеханавецкі, у 1874 г. ад былой рэзідэнцыі Агінскага “не было ўжо і следу”.[3]

Аднак Годэль Гольдберг пісаў у 1934-м, што ў будынку былога палацу ў той час знаходзілася яўрэйская гімназія.[4] Ён, безумоўна, памыляўся. Станіслаў Лорэнц быў больш асцярожны, адзначыў, што будынак яўрэйскай гімназіі прынята лічыць адной з гаспадарчых пабудоў былога палацу Агінскага.[5] Гэтая легенда дажыла аж да нашага часу. Як распавядала ў 1997 годзе аўтару гэтых радкоў сланімчанка Ніна Пятроўна Лукашэйка (Сяменік), пры “першых саветах” у будынку яўрэйскай гімназіі на “Замчышчы” дзейнічала руская сярэдняя школа, а пазней — школа медсясцёр. У гісторыі Слонімскага дзяржаўнага медыцынскага каледжа паведамляецца, што заняткі ў школе медсясцёр пачаліся 4 сакавіка 1940-га. Яна займала “каменны будынак, які стаяў на ўзвышшы і калісьці належаў князю Агінскаму”. Падчас нямецкай акупацыі гэты дом “быў цалкам разбураны”.[6] Найхутчэй гэта адбылося летам 1944-га падчас баёў за горад. У 1943-м дом на “Замчышчы” яшчэ стаяў і яго займаў працоўны батальён.[7]

Калі ў 1930-1940-я на "Замчышчы" была не "камяніца Агінскага", дык калі ж пабудавалі гэты дом? На аэрафота Слоніма, зробленых падчас Першай сусветнай вайны, згаданы будынак добра бачны. Найхутчэй яго пабудавалі ў канцы XIX стагоддзя. Пасля жахлівага пажару 25 траўня 1881-га горад адбудоўваўся. Падобны вялікі двухпавярховы будынак адмыслова маглі ўзводзіць для навучальнай установы. Ці не там знаходзілася прыватная яўрэйская вучэльня, якая дзейнічала з 1898 года, а ў 1906-м стала жаночай прыватнай яўрэйскай прагімназіяй?[8] А ўжо пад польскай уладай там пачала дзейнічаць яўрэйская гімназія.

На наш погляд, правільна будзе пісаць, што на здымку 1931 года мы бачым будынак, узведзены на месцы колішняга палацу Агінскага. Ад яго таксама цяпер не засталося нават следу.

***Сяргей Ёрш***




*[1] https://audiovis.nac.gov.pl/obraz/125635/*

*[2] Газета Слонімская, 2016, № 31, 27 ліпеня.*

*[3] Цеханавецкі А. Міхал Казімір Агінскі і яго "сядзіба музаў" у Слоніме. — Мінск: Беларусь, 1993. С. 92.*

*[4] Goldberg G. Zarys dziejów miasta Słonima. — Słonim, 1934. C. 23.*

*[5] Lorentz S. Wycieczki słonimskie. — Słonim, 1933. C. 6.*

*[6] История учреждения образования "Слонимский государственный медицинский колледж" // http://www.slonimsmc.grodno.by/college_history_rus.html*

*[7] Данілюк Б. Азіраючыся расой выетымі вачыма: Успаміны. — Мінск: Лімарыус, 2012. С. 271.*

*[8] Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Слонімскага раёна. — Мінск: БЕЛТА, 2004. С. 146-147.*


# Хершаля Розэнблата расстралялі ў слонімскай бальніцы

27 студзеня адзначаўся Міжнародны дзень памяці ахвяр Халакосту. Жалобныя мерапрыемствы прайшлі і на Слонімшчыне, дзе падчас Другой сусветнай вайны нацыстамі былі забітыя дзясяткі тысяч яўрэяў. Гэта былі і нашыя землякі, і бежанцы, якія ў 1939-1940 гадах уцяклі ў савецкую Беларусь з Польшчы. У гэтым нумары "СК" хацеў бы згадаць пра трагічны лёс аднаго з такіх бежанцаў.

Хершаль Розэнблат нарадзіўся ў Варшаве ў 1916 годзе ў беднай яўрэйскай сям'і. Працаваў рабочым, быў на тэрміновай службе ў польскім войску (у кавалерыі).



У Слонім трапіў верагодна ў канцы 1939-га. З Радама, дзе ў той час жыла сям'я, уцёк пасля таго, як нацысты па-зверску збілі яго старэйшага брата.

Розэнблат знайшоў у Слоніме працу, якая яму была знаёмая — быў маляром. Але ў канцы вясны ці ў пачатку лета 1941 года здарылася няшчасце — Хершаль упаў з рыштавання і зламаў нагу. На яго бяду неўзабаве пачалася вайна і праз некалькі дзён у Слонім увайшлі нямецкія танкі.

"Энцыклапедыя Халакосту" сведчыць, што Розэнблат, бездапаможны, застаўся ў бальніцы. Неўзабаве ў горадзе з'явіўся атрад карнікаў, якія расстрэльвалі яўрэяў і камуністаў. 25-гадовага Хершаля Розэнблата застрэлілі проста ў бальнічным ложку.

***М. І.***

# На Рышчыцкай гары быў помнік ахвярам бальшавікоў



*Старыя могілкі на Рышчыцкай гары. Здымак верасня 2016 года. Фота Сяргея Яраша.*

У ліпені 2016 года слонімец Мікалай Іванавіч Ракевіч распавёў аўтару гэтых радкоў пра помнік ахвярам бальшавізму, які ў 1930-я гады стаяў на Рышчыцкай гары (у той час яшчэ існавала вёска Рышчыцы, якая ў Слонім не ўваходзіла), каля старых вясковых могілак і вайсковага пахавання Першай сусветнай вайны. Ракевіч даведаўся пра яго ад колішняга жыхара Слоніма Бернарда Гвяздзінскага, які прыязджаў з Польшчы. Помнік, нібыта, быў узарваны (ці разбіты) пасля ўсталявання савецкай улады, якая прыйшла на змену польскай, восенню 1939-га.

У верасні 2016 года з'явіўся артыкул Васіля Герасімчыка, прысвечаны баям за Слонім падчас савецка-польскай вайны.* У ім ён згадаў помнік, усталяваны палякамі ў 1930 годзе "паблізу гарадскіх казармаў, на ўзгор'і, фронтам на ўсход". Менавіта так напісала ў 1937 годзе ў аднадзёнцы слонімскай філіі "Асацыяцыі вайсковай сям'і" Міта Гопэ. Яна працытавала і надпіс на помніку: "У 10-ю гадавіну пераможнага адпору ўварвання савецкай Расіі, у гонар забітых у 1920 годзе войскам СССР польскіх жаўнераў і грамадзян у колькасці некалькіх дзясяткаў, на месцы іх страты быў узведзены гэты помнік".** Насамрэч, згаданы помнік знаходзіўся не паблізу казармаў, а далекавата ад іх.

Каб даведацца больш пра помнік і абставіны яго ўсталявання, звярнуўся да польскай прэсы за 1930 год. Удалося знайсці некалькі публікацый. З іх вынікае, што помнік на Рышчыцкай гары ўрачыста ўсталявалі 11 лістапада 1930 года. У той дзень у Слоніме польскія ўлады адзначалі 10-я ўгодкі вызвалення ад бальшавікоў. Мерапрыемствы праходзілі як у цэнтры горада, так і на яго ўскраінах. Пасля ўрачыстасці каля казармаў вайскоўцы і цывільныя асобы пайшлі "да недалёкага ляску на месца забойства 54 асоб — ахвяр бальшавіцкага тэрору". Там усталявалі помнік, каля яго адбыўся мітынг. На ім прамаўляў слонімскі натарыюс і краязнаўца Мечыслаў Пятроўскі, які распавёў пра тое, як бальшавікі закатавалі людзей (ахвяры былі звязаныя калючым дротам, прымацаваным да паляў, забітых у зямлю). Былі і іншыя выступленні, хвіліна маўчання. Пасля вайсковы аркестр выканаў жалобны марш.***

zakończeniu przemówienia obecni przechodzą do pobliskiego lasku na miejsce stracenia 54 osób — ofiar teroru bolszewickiego. Tu umieszczony został dla uczczenia tego miejsca każal obelisk dookoła którego ustawiło się wojsko i przybyła publiczność. Pierwszy do zgromadzonych przemówił wiceprezes notarjusz Mieczysław Piotrowski, mówiąc o barbarzyń-

trzeć obecnie w przyszłość. Kończąc przemówienie, p. Godlewski wznosi okrzyk na cześć armji i Jej Wodza. Okrzyk ten zostaje podchwycony przez niezliczone tłumy publiczności.

Wśród nieopisanego entuzjazmu wszyscy wyruszają w kierunku koszar, gdzie przed placem ćwiczeń komendat garnizonu i przedstawiciele władz państwowych przyjmują defiladę 2 ch

**Pomnik 54 poległych żołnierzy w Słonimie**

SŁONIM. W związku z obchodem 10 lecia odparcia nawały bolszewickiej Komitet powiatowy w Słonimie postanowił dokonać odsłonięcia pomnika ku czci 54 żołnierzy, poległych w walce z bolszewikami w obronie Słonima. Protektorat przyjąć raczyli pp. wojewoda Beczkowicz, gen. Trojanowski D ca O. K. IX, gen. Grzmot-Skotnicki i inni.

*Зацемкі ў польскай прэсе пра рышчыцкі помнік.*

У кастрычніку 1931 года слонімскі журналіст і краязнавец Віктар Клімкевіч пісаў, што ўлады абяцалі зрабіць на помніку ў Рышчыцах шыльду з прозвішчамі ахвяр, але за год яна так і не з'явілася.**** Ці з'явілася яна ў пазнейшы час, пакуль невядома. Ёсць надзея, што рэшткі помніка маглі захавацца. Магчыма, працяг тэмы яшчэ будзе.

***Сяргей Ёрш***

**Герасімчык В. Баі за Слонім у 1920 годзе // Газета Слонімская, 2016, № 40, 28 верасня.*

***JEDNODNIÓWKA. 3.II.1937. Stowarzyszenie rodzina wojskowa. Kolo Słonim.*

**** Kurjer Nowogródzki, 1930, № 268, 12 лістапада.*

*****Kurjer Nowogródzki, 1931, № 22, 13 кастрычніка.*



***Верагодна, на гэтым месцы стаяў помнік ахвярам бальшавізму. Здымак верасня 2016 года. Фота Сяргея Ярша.***

# Слонімская рэклама ў віленскай беларускай газеце 90 гадоў таму

Праглядаючы беларускі і польскі перыядычны друк 1920-1930-х гадоў, даволі рэдка даводзілася сустракаць рэкламу са Слоніма. Таму кожная знаходка каштоўная. У віленскай газеце "Беларускі дзень" 5 лістапада 1927 года на апошняй, 12-й старонцы, была змешчаная вялікая рэклама сялянскай "ткальні і мянальні" пад назвай "Tkanina". Яна мела памяшканне ў Слоніме па вуліцы Касцюшкі, 9 (цяпер — Маякоўскага), нарыхтоўвала сыравіну (лён, воўну, каноплі і г. д.). У гэтым нумары "СК" змешчаны чарговы матэрыял пра слонімскія падзямеллі. Там апісваецца здарэнне, якое адбылося ў 1928-м якраз на Касцюшкі, 9. ***СЁ***

Opłata pocztowa opłacona ryczałtem.
Цана асобнага нумару 25 грошаў. Год I.
№ 33. Вільня, 5 лістапада 1927 году.
БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ
ТЫДНЕВАЯ ЧАСОПІСЬ

КУПЛЯЕМ УСЯЛЯКАЕ СЫР'Ё І ПЛАЦІМ НАЙБОЛЬШЫЯ РЫНАЧНЫЯ ЦЭНЫ.

Сялянская Ткальня і Манальня
„TKANINA"
ў Слоніме, вуліца Касьцюшкі 9.

Прымае ўсялякае сыр'ё, як лён, каноплі, пакуле і воўну ўзамен на гатовыя палотны, зэфіры, барханы, мультаны, сукны, настольнікі, ручнікі, і да гэтага падобныя матар'ялы.

Прымаем у кожнай мясцовасьці намесьнікаў (агентаў) і плацім высокую правізію.

КУПЛЯЕМ УСЯЛЯКАЕ СЫР'Ё І ПЛАЦІМ НАЙБОЛЬШЫЯ РЫНАЧНЫЯ ЦЭНЫ.

# У 1477 годзе Слонім наведаў пасол Венецыянскай рэспублікі


327100

IL VIAZO
DEL CLARISSIMO
MESSER AMBROSIO CONtarini Ambaſciator della Illuſtriſſima Signoria di VENETIA al Signor Vxuncaſſan Re de Perſia.

Contarini (Ambroise)

VENETIA M. D. XLIII.

327100

Амброджа Кантарыні (1429 — 1499) быў вядомым дзеячом Венецыянскай рэспублікі, дыпламатам і падарожнікам, чалавекам заможным. У 1474 годзе яго паслалі ў якасці пасла ў далёкую Персію. У Венецыі былі занепакоеныя ўзрастаючай магутнасцю турэцкай дзяржавы (у 1453-м туркі захапілі Канстанцінопаль і пагражалі Еўропе). Кантарыні місію выканаў, пабываў у Рэчы Паспалітай, Грузіі, Персіі, Масковіі. Калі ў канцы зімы 1477 года ён вяртаўся на радзіму, дык ехаў праз Вялікае княства Літоўскае.

Сваё падарожжа ён апісаў у кнізе “Падарожжа Амброджа Кантарыні, пасла святлейшай Венецыянскай рэспублікі да знакамітага персідскага ўладара Узун-Гасана”, якая выйшла ў Венецыі ў 1487 годзе. На 36-37-й старонках чытаем: “16 лютага [1477-га] я пакінуў Трокі і мы ехалі аж да 25 лютага, пакуль не прыбылі ў гарадок пад назвай Lonici. З’ехаўшы адсюль, мы ўступілі ў Польшчу...”.

Навукоўцы мяркуюць, што гаворка ідзе менавіта пра Слонім, а Lonici можа быць прачытана як Lonin.* У кнізе аўтар сказіў назвы і шэрагу іншых гарадоў, той жа Варшавы.

Шкада, што дыпламат не пакінуў хаця б мінімальнага апісання нашага “гарадка”. Венецыянца, які праехаў па Еўропе і Азіі, не ўразіў Слонім, у той час суцэльна драўляны. Ён пераначаваў, адпачыў і раніцай разам са спадарожнікамі рушыў на захад.

***Генадзь Гурскі***

**http://www.vostlit.info/Texts/rus10/Kontarini/frametext2.htm*


apiacer haueà inteſo de le coſe de Vſuncaſſan, & de tartari: & chel era certificato de quello che ſempre haueà tenuto: che mai non crite fuſſe tante coſe, che ſe dica, & ſozonſeme, che anchora non haueà trouato alcun, che li haueſſe ditto la verita, ſaluo che mi: ne fece molte altre parole, ma queſto fu lo effetto del tutto: mi fece intrar in vnaltra ſala: doue era apparecchiate le tauole, & ſempre ben acompagnato, deli poco venne ſua. M. con doi fioli, con trombe honoreuolmente: & ſe miſſi a ſentar a tauola da banda dextra era li ditti duo ſoi fioli a ſiniſtra, era il primo veſcouo, chi habbia et io arente de lui: nõ troppo diſtãte da ſua. M. gli bargni molto erão alle tauole: ma diſtãti: tẽgo erano da perſone 40 le viuãde portauão in tauola ſempre con le trõbe auãti i piati abundãtemente: & erano ſeruiti de cortello auãti amodo noſtro, ſteſſemo a tauola forſi hore. 2. & al continuo mi domandaua de ditto mia viazo molte coſe, & io a tutto ſatisfaua a ſua M. finito il cõuito & leuato le tauole, ſtãdo in pie, et io rechiedẽdo cõbiato da ſua Maie. p volermi partire, domãdãdo ſe quella piaceua cõmandar piu vna coſa cha vnaltra, me diſſe. che io doueſſe aſſai offeri ſua Maieſta alla mia illuſtriſ. Sig. con humaniſſime parole, & comando a li figlioli mi vſaſſeno ſimile parole, & con le debite reuerentie. Tolſi combiato da ſua Maieſta, & dali figliuoli & feceme compagnar honereuolmente alla ſtantia: doue era. comando mi fuſſe dato guida q̃lla mi haueſſe a cõpagnar &, comãdar, che p tutto il ſuo paeſe fuſſe guidato & acõpagnato ſi che ſicuro andaſſe p tutto. Adi 16 Febra. ditto mi parti dal ditto luoco de trochi, & caminando fin adi 25 ditto, che riuaſſemo in

37

vno luoco chiamato Ionici, & de li partimo eramo intrati in la Pollonia, & de luoco in luoco ne erano date guide per commandamento de la Ma. del Re, & fuſſemo in vna terra chiamata Varſonia: la qual e de doi fratelli Signori de la ditta, doue mi fu fatto honor aſſai, & datome guida, che mi accompagno fin in polonia, de la qual non ne faro mention per hauerla fatta per auanti del ditto paeſe, ſi de la Lemagna, come di pollonia, non mi extendero dirne troppo particularita, perche in uero il paeſe e bello & moſtra aſſai abundante de vittuaria e carne, ma poche frutte de ogni conditione, trouauemo pur caſtelli, & caſalli: ma niuna terra da farne mention: & ogni ſera crouauemo lozamento: & eramo per tutto ben viſti: & e paeſe ſicuro.

Adi primo Marzo zonzeſſemo in la ditta terra de pollonia habiando caminato al continuo ne li anteditti Sani: & per eſſer non poco affaticato, il ſimile la fameglia mia: ſi per i gran freddi, come per li molti deſaſi de ogni condition, hauemo hauuto, ſtetti in fina adi 5 ditto, che per eſſer ben allozati: in vna bona: & bella terra, abundante de tutto aſſai bene ſi trouaſſemo del tutto ben forniti etiã de caualli p lo noſtro caualcar: & ogni altra coſa al biſogno con tutta la fameglia. Adi 5 partimo de ditto luoco de pollonia: & venimo in vnaltra terrizola: chiamata meſſariga pur de ditto Re: & de li partimo: ma per eſſer il confin della pollonia alla lemagna paſſaſſemo non ſenza paura, & pericolo zonzeſſemo adi 9 ditto Francfurt terra del Marcheſe de Brandiburth, & allozai in caſa del hoſte: doue allozai nel mio andar, qual cogno.

## СЛОНІМЦЫ Ў СВЕЦЕ

# Ніна Чаркес



14 верасня 1954 года ў Слоніме нарадзілася Ніна Чаркес. Пасля заканчэння ў 1981-м Дзяржаўнага інстытута тэатральнага мастацтва ў Маскве, яна працавала ў тэатрах сталіцы Савецкага Саюза і ў Мінску. На “Беларусьфільме” знялася ў кароткаметражным фільме “Сустрэнемся” (1973) рэжысёра Георгія Мыльнікава. У 1985 годзе ўзяла шлюб з польскім піяністам Янушам Гжэлонзка і пераехала ў Польшчу. Жыла ў Лодзі, цяпер — у Варшаве (нейкі час была ў Фінляндыі). У Польшчы здымалася ў фільмах, серыялах, тэлеспектаклях (у апошнія гады ўжо мала). Піша вершы, п’есы, спрабуе сябе, як тэатральнага рэжысёра, спявае пад гітару, выступае з сольнымі канцэртамі. У Ніны Чаркес двое дзяцей.

***Генадзь Гурскі***

**“Слонімскі край” —** краязнаўчае электроннае выданне.
Выходзіць раз на месяц.

Заснаванае ў лютым 2016 года В. Герасімчыкам, С. Яршом і С. Чыгрыном. Рэдактар нумару ***Сяргей Чыгрын***.

Наш адрас:
slonimskikraj@gmail.com